# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

двухтыднёвы літаратурна-мастацкі дадатак да „Беларускай Вёскі“

№ 1 — 19 кастрычніка 1926 г. — № 1





А. Бабарэка.

## За культуру мастацтва!

Мастацтва, гэта культурны кацітал таго народу, які мае гэткае мастацтва. Вялікія творы поэзіі ўзьнімаюць ня толькі таго, хто іх стварыў, але і той народ, з якога вышаў гэты поэт, на высокую ступень культуры ў вачох іншых народаў. Тых людзей, што маюць вялікія мастацкія творы, вялікіх поэтаў і мастакоў любяць і паважаюць. З імі лічацца, як людзьмі, якія маюць вялікія творчыя магчымасьці і якія могуць даць ня толькі для сябя, але і для сьвету каштоўнае і патрэбнае для жыцьця сьветлага і прыгожага. Чаму? А таму, што вялікія мастацкія творы здольны абуджаць людзей на вялікую творчасьць, на вялікае змаганьне і дзейнасьць. За новае, лепшае жыцьцё". У гэтым-ж навялікшая асалода і радасьць жыцьця. Але гэта могуць рабіць толькі мастацкія творы. А ня ўсё тое, што выдаецца за мастацкае, ня ўсякі верш, ці апавяданьне ёсьць мастацкае.

У беларускім прыгожым пісьменстве ёсьць розныя творы. І гэта ад таго, што ня ўсякі пісьменьнік ці поэта ў сваёй творчасьці імкнецца даць мастацкі твор, а часта кіруецца ўсякімі пабочнымі патрэбамі і інтарэсамі таго ці іншага дня, або тэй ці іншай грамады людзей, якую ён выражае ў пісьменстве. Так за часы прыгону на Беларусі былі поэты, што пісалі пабеларуску, мэючы на ўвазе толькі адно, гэта асьвету простых людзей у шляхецкім духу. І сярод твораў гэтых поэтаў зусім мала мастацкага, бо яны не тварылі, а падрабляліся пад народ. У самым-жа народзе хадзілі з вуснаў у вушы такія мастацкія народныя творы, якіх не маглі замяніць аніякія падробляньні.

Такія яны былі мастацкія! Гэтымі народнымі творамі цікавяцца нават іншыя народы і а іх пісьменьнікі да поэты вучацца на іх, як пісаць і тварыць вялікія мастацкія творы.

Перад рэволюцыяй беларускія поэты і пісьменьнікі імкнуліся сваімі творамі абуджаць нацыянальную і соцыяльную сьвядомасьць беларускіх сялян і рабочых, імкнуліся сваімі творамі адчыніць людзям вочы на тое, што было ў той час на Беларусі ад няволі і якія сілы і магчымасьці крыліся ў самых сялян і рабочых. І былі сярод гэтых поэтаў і пісьменьнікаў такія, што зрабіліся праз свае творы кветкамі Беларусі, што сталіся гордасьцю беларускіх сялян і рабочых, а іх творы культурным капіталам Беларусі. Каб узьнімацца на вышэйшыя ступені культуры, ужо нельга абмінуць твораў, скажам, такіх поэтаў, як Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча, А. Гаруна і інш.

Гэтыя творы трэба ведаць і ўмець. Бедным на культуру зараз лічыцца ўжо той, хто гэтых твораў ня ведае і ня ўмее.

Кастрычнікавая рэволюцыя адчыніла перад беларускімі сялянамі і рабочымі шы-

рокія магчымасьці творчасьці. Гэта рэволюцыя паставіла адзіную задачу—гэта будаўніцтва новага жыцьця без паноў і цароў, жыцьця, якое панавуковаму называецца соцыялізмам. І сілы народныя не абмінулі й таго, каб выявіцца і ў мастацкай творчасьці, у пісаньні вершаў, апавяданьняў, біек і інш. Цэлыя горы такіх вершаў, што надсылаюцца ў рэдакцыі з беларускіх вёсак, кажуць аб вялікім уздыме сялянскай моладзі і вялікім яе імкненьні да творчасьці, імкнен ні свае сілы і энэргію аддаць на агульную справу будаўніцтва новага жыцьця і культуры. Лік выдрукаваных вершаў і кніжачак маладых поэтаў і пісьменьнікаў за апошнія гады кажа таксама аб гэтым уздыме.

Але, як кожны рух і кожная справа, так і гэты ўздым і веліч імкненьня да творчасьці мае і свой адваротны бок. Гэтым адваротным бокам ёсьць наша агульная някультурнасьць, сьпешна і не заўсёды сур'ёзныя адносіны да сваёй пісаніны, якая выдаецца за вершы або апавяданьні. У гэтым, ёсьць ведама, ня столькі загана, колькі наша агульная бяда. Кожнаму хочацца, каб як найхутчэй нагнаць тое, што было ўтрачана за часы шматвяковага паднявольнага жыцьця да рэволюцыі. А патрэбы зараз вялікія. Гаспадарку трэба ўзьнімаць. Культуру таксама. А тут яшчэ шмат няпісьменнасьці. Значыць, трэба і вучыцца і вучыцца. Вось гэтага з маладых, што пачынаюць пісаць вершы ці апавяданьні, ня ўсе разумеюць і часта думаюць, што тварыць поэзію, мастацтва лягчэй за ўсё, што пісаць вершы можна й без належнай навукі, бяз веданьня таго, як ужо пісалі беларускія поэты і пісьменьнікі і як зараз пішуць у культурных людзей.

Беларускім сялянам і рабочым патрэбна мастацтва. І гэта мастацтва павінна быць вышэйшым ад таго, якое было і якое ёсьць у буржуазіі. А дзеля таго, каб стварыць такое мастацтва трэба ведаць, што ёсьць, трэба навука і навука вялікая. Трэба апанаваць культурную мастацтва. І тады сялянскія і рабочыя поэты і пісьменьнікі здолеюць стварыць такія мастацкія творы, якія будуць сапраўды культурным капіталам работніцка-сялянскай Беларусі. Спадзявацца-ж на некага тут не даводзіцца. Справа стварэньня сялянскага і пролетарскага беларускага мастацтва ёсьць справа саміх беларускіх сялян і работнікаў. Праз аўладаньне культураю мастацтва да вялікай творчасьці, да стварэньня высока каштоўных твораў сялянскага і пролетарскага мастацтва. Толькі праз гэта магчыма мастацкае вырашэньне вялікага руху рэволюцыі. І толькі такім шляхам назапасяцца элемэнты будучай соцыялістычнай культуры.

**Янка Купала**

# Нікому

*(З часоў прыгону)*

I

Скончыўся дзень працы,
Сонейка зашло,
Вечарок асеньні
Сходзіць на сяло.
Станавяцца ў хатах
Дзяды па кутох,
Час агонь паліці,
Ночкі цень залёг.
Пук лучынак ёмкі
Дзяўчынка нясі,
Пры сьвятле іх будзем
Ґутарку вясьці.
Раскажу вам тутка
Здарэньне адно,—
За часоў прыгону
Здарылась яно.
Слухаць толькі ўважна,
Не перабіваць.
Сьціхлі. Ладна! Толькі
З чаго-б тут пачаць?

II

Гэй, думка ўдалая,
Ты мяне нясі
Па роднай старонцы—
Па Белай Русі!
Нясі ў час мінулы,
Як горасна тут,
Год таму з паўсотні
Жыў наш бедны люд.
Сьмерць ішла ня ў часе,
Дый не к аднаму,
Жаліцца ў няшчасьці
Ня было каму.

На бяду і гора,
На сьлёзы і жаль
Паншчына спраўляла
Свой прадсьмертны баль.
Хоць мінуў даўно ўжо
Час той ліхадзей,
Але ня мінула
Памяць у людзей.

III

Сярод гор пяшчаных
Ды панскіх лясоў
Разселася вёска
З якіх хат са сто.
Жыве ў гэтай вёсцы
Душ якіх з пяцьсот,—
Працуе на пана
Ўвесь гэты народ.
Пан, што хоча робіць,
Грозен яго кнут,
Лье пот, кроў і сьлёзы
Зацяганы люд.
За віну малую
Розгамі сякуць
За прэступак большы
Ў рэкруты здадуць.
Бацька робіць „дзела“,
У салдатах сынок,
Бярэ за каханак
Пан жонак, дачок.

IV

Вось у гэтай вёсцы,
У сям'і аднэй,
Вырасла дзяўчына,
А ўсіх прыгажэй!
Звалася Аленай
Дзяўчынка душа,
Ну... і пакахала
Шчыра Тамаша.
І Тамаш Алену,
Ой, не ад таго;
Сказаць пра іх любасьць
Можна шмат чаго
Любіліся шчыра
Пара галубкоў,
Дый ня мелі шчасьця
Для сваіх галоў.
Бор над іх-бы доляй
Плакаў і шумеў...
Аленку-красную
Пан на воку меў.

V

Раз пекна прыбраўшысь,
Быццам на кірмаш,
Пашлі ў двор да пана
Алена і Тамаш.
Прышлі. Пан к ім вышаў;
А яны да ног.
— „Пазволь пажаніцца
Нам, ясны панок!“
— „Жаніцеся! што ж там..—
Кажа пан з двара:
Калі-ж будзе шлюб ваш?“
— „Панок, на Пятра“.
Як прышлі, йдуць нашы
Дамоў жаніхі,
Весела варкочуць...
Пан добры такі.
І ні ўцям ім бедным,
Што за імі ўсьлед
Ліха злое пхнецца
І натворыць бед.

VI

Грыміць палац белы,—
У пана йдзе банкет,
Гуляе магнацтва
Гулка, на чым сьвет.
Сталы паўнютэнькі
Яды дарагой,
Дарагія віны
Льюцца ракой.
Бяз сораму жарты
Ў п'яных пашлі,
Аж іх жонкі, дочкі
Са стыду ўцяклі.
І гэта толькі
Хацеў зброд п'яны.
— Дзевак сюды! дзевак!
Крыкнулі паны.
Гаспадар гасьцінны
Ўгадзіць рад гасьцям,—
Тут Алену ўспомніў,
К якой лас быў сам.

VII.

А Тамаш з Аленай
Муж і жонка ўжо
І ад шлюбу едуць
Роднаю мяжой.
Дамоў едуць хутка,
Ён штось шэпча ей,
Яна вочкі спусьціць,
Стане ружавей.
Але не пашэньціць
Мабыць маладым:
Кепскія варожбы
Пападаюць ім.
Перабег дарогу
Заяц разы два,
Груган закружыўся,
Гукнула сава.

З трывогай друг к дружцы
Маладыя льнуць...
Каб хаця ім бедным
Злых прыгод мінуць!

VIII.

Вечар. Ціха ў вёсцы,
Раптам грук такі!
Гоман. Коняй ржаньне,
Бразгаюць званкі.
Уехала дружына,—
Той цьвяроз, той п'ян,—
Сходзяць маладыя
На белы дыван.
Выслана да хаты
Сьцежка палатном,
Ідуць маладыя
За ручку ўдваём.
Бацька з маткай века
Ад дзяжы дзяржыць,
А на ім гарэлка
І хлеб соль ляжыць.
Музыка марш грае,
Аж трасецца пол,
Пад векам дружына
Йдзе ў хату за стол.

*(Канец у чарговым нумары).*

**Язэп Пушча**

## Прысьвячаю „прыяцелям-поэтам“...

Наліліся словы
Дзікім ядам,
Скамянела
У сэрцы злосьць.
Зрок ўпіўся у сінь
Сухім паглядам,
На душы
Бясьсільля боль.

Кожны з іх
Уцьняў руку
На брата:
— «Угробім»
Мы жывым яго!
— Гнеўных струн
Больш пальцамі,
Ня кратаць,
Згасьне
Юны пал—агонь.

Пляміць песьні
Імем іх
Ня хочу,—
Хай цьвіце
На «славу» ім.
Апаўюцца жалем,
Можа, вочы,
Можа, смутак пройдзе
Па чале маім?..
Ахаплю прастор я
Вокамгненьнем:
Асыпае лісьця
Вецер
З пажаўцелае бярозкі.
Не упаду
Да ног я ніцма,
Як калісьці
Гэнрых Гэйнэ
Прад Вэнэраю Мілоскай.

Ня схіляць-жа голаў
Ніжай долу.—
Я паслаць паклон
Павінен
Залатой вясьне.
Я спаткаю долю
У чыстым полю.—
Стане сінь асеньняя
Ясьней...

Вольнай песьні
Ня угруніць,
І нічым яе
Ня сьцерці.
Анямець
Ня могуць струны,
Хоць крыв вяць словы,
Часам, сэрца.

Запалю ліхтарню
Сёньня у ночы
І сьпяю пры ей
Мяцежны гімн...
Пляміць песьні
Імем іх
Ня хочу,
Хай цьвіце
На «славу» ім.

**Максім Лужанін.**

Гаварылі—на сонцы плямы,
паляцець бы туды—пабачыць,
на паўдні кучаравыя пальмы
шалясьцяць і гамоняць іначай.
І што песьня ня гэтак рунее,
залатымі званочкамі струн
і вятры ў асмуглелых завеях
заклікаюць над полем зару.
І я сам для другіх валацуга
і ня сталы зусім чалавек,
што любіў над туманістым лугам
сустракаць сьветлай раніцы цьвет,
быў уцехаю, радасьцю повен
я хацеў кустам стаць ля вады,
каб застацца прыгожым і новым,
каб застацца душой маладым.
Келіх думак сапраўды завяне,
ападзе ў жоўтацьвець маладосьць,
бо й цяпер вось куды ні глянеш
бачыш скаргі на плечах гадоў.
Ах, кусты, дарагія сасонкі,
пушчы мілых асыпаных дрэў,
ціха шастайце голейкам тонкім,
каб ніколі тугой не хварэць.
Дарагое і блізкае воку,
у пажоўклую сэрцам пару,
ўспамінаю паціху ў далёкім
і ліецца душа ў Беларусь.

Ясакар.

# Асеньні сказ

Спалоханы крыкам асеньнім,
У прысядзь бярозкі прыселі,
Дрыжаць у сарочках у белых
На бурых лісьцёвых пасьцелях.

Акутан дажджом, як валосьсем,
Вандрую ў хваёвую восень,—
Дзе ткуцца сьцяжынкі тканінай,
Дзе поле крывавяць рабіны.

І топяцца шызыя далі
У мутнай нябёснай крышталі,
І гоніцца вецер за ветрам
У зыбкіх засьвітаных нетрах.

Вятры над хваінай самотнай
Заводзяць сьпеў казку журботна.
І сыплецца слова за словам
Між лапінак—з вуснаў хваёвых:

„Стаяла нядаўна тут хатка.
Жылі два сыны ў аднэй маткі.
Адзін быў свабодзе аддany,
Другі быў бандытам паганым“.

„Пакінулі матку ў хаце—
Па рознаму йшлі ваяваці.
З гнязда паляцелі саколы—
Зрабіляся пуста вакола“.

„Раз летняю цёмнаю ночкай
Зышліся ля хаткі браточкі.
Як толькі іх маці сустрэла—
Бабухнулі раптам два стрэлы“.

„Блішчэль сьлязінка расіца.
Дзьве стрэльбы ляжалі ў травіцы.
Адбыліся разам тры сьмерці,
Бо лопнула матчына сэрца.“

* * *

Так вецер мне казку гавора
У сівым вільготным прасторы.
Акутан дажджом, як валосьсем,
Вандрую ў хваёвую восень.

П. Глебка.

# Дзьве дарогі

Зноу вясна. Залацістыя косы
Сонца ціха сплятае у траве;
Сэрца радасьці шчырае просіць,
Каб у цьвеце слачыць галаве.

Вось чаму гэтак сьніцца часта
Весна, нівы, далекая гаць,
Здаецца чую, як вецер зашастау,
А у ветры хвалюецца гай.

Міма волі успомніш дзяцінства
І асенні бярозавы шоук.
Нізка гнуліся вербы пасьцінцу,—
Я ня ведау куды ішоу.

О, як многа дарог і дарожак,
А шчэ болей—сьлядоу на іх:
Хоць ступалі усе асьцярожна,
Але плямы пяскамі лаглі.

Хто адкуль—з-за вазер і балотау
Ці з усходніх пясчаных палеу
Мы прышлі для вялікай работы,—
Чый-жа сьлед на дарозе ня лег?!

Мо' таму што я ведау нядолю
І цяпер не палегуе лес—
Сэрцам смуглым ад радасьці з болем
Да крыві—аж у масы урос.

Нашы дні—гэта радасьць і гора,
Што плятуць векавечны узор;
Ёсьць часіны,—і смутак агорне
Ды рассыплецца усьмешкамі зор.

Помню толькі адзін дзень пахмуры:
Зацьвітаць пачыналі сады,
Бровы чорныя, хтосьці нахмурыу
І сказау:—«самагубства,—бо дым»!.

Сэрца ціхай смылела больлю:
Значыць розны нас лес гадавау,
Калі тут—на квяцістым прывольлі—
Ен ня тое—чака і што—дау.

Над трунай ня дыміуся ладан,
Што мінулым на сэрца нясе,
Толькі дожджык ад сонца плакау
І усьміхауся вясенняй красе.

Я спазнау, што ня многа, а дзьве есьць дарогі
Час пакажа куды пайду,
А цяпер ад родзімых парогау
Не забраць маіх радасных дум.

Буду верыць заусёды, як сеньня,—
Перад намі дарога адна:
Сеяць радасьць на вольных загонах,
Дзе палын узрастау давідна.

13-V-26 г.

Кузьма Чорны

# Выпадак у восень

Гэта было адзін раз у восень, за горадам—на зямлі попел і дзындра і лапаты нашы скрабуць зямлю.

Мы прывыклі да мяккае хмурнасьці дзён і востраму стуку сваіх лапат і з, лёгкімі як бяздумнасьць, думкамі варушымся на дарозе..

Уверсе растае дым—кагадзе прашоў поезд і чорныя дзікія птушкі зноў ляцяць сюды, спакайнеюць і нешта клююць на пяску. І гэтая ціш—як пачатак спакою, схаваўшага непакойную вастрату.

Аб гэтым я думаў і глядзеў, як патроху пусьцела дарога—канчалі работу і йшлі назад, на таварную станцыю.

Я не сьпяшаў, я хацеў застацца адзін, вярнуцца ў горад раней. За гэтым сеў я на вільготны пясок і чакаў і бачыў, як хутка схаваліся за ўзгоркам апошнія постаці работнікаў—дзьве дзяўчыны ў белых хустках і ў сінім адзеньні. Патроху ў мяне зьяўлялася журба, што не пашоў я з імі... і вакол нікога ўжо ня было.

Тады я пашоў паволі, каб хутка зьвярнуць па прысадах у горад...

Нехта даганяў мяне—я выразна пачуў шырокія крокі і скрып пяску і дробных каменьняў пад нагамі. Я пашоў яшчэ павальней, каб ён мог хутчэй мінуць мяне

— У горад?

— У горад.

— От якраз па дарозе.

Ён быў шырокі ў плячох і нізкі ростам, з круглым тварам, год пад пяцьдзесят. Крокі ў яго былі вялікія, моцна шараваў ён палкаю па пяску. А пры мне —спыніў шаг, каб разам ісьці.

— Куды-б гэта мне там пайсьці, парадзіцца.

— А чаго?

— З жонкаю хачу разлучыцца.

Ён цяпер трохі маўчаў і азіраў мяне мусіць, каб упэўніцца ці можна мне ўсё гаварыць. Пасьля сказаў:

— Трыццаць год жыву з ёю, дзьвёх дачок замуж аддаў, а цяпер, значыцца пара якраз такая, што можна, пара прышла...

— А чаму якраз цяпер?

І раней трэба было, ды ня было як... Адзін раз, калі агарнула мяне нешта—вёз воз снапоў з поля, год сем таму, ды йшла дзяўчына па дарозе, з закрытым хусткаю ад гарачыні тварам, толькі вочы відаць. Я з верху глянуў на яе, а яна на мяне—дык тады з паўгода нешта давіла душу.

— Дык гэта з тых часоў усё?

— Не, і раней было.

Я ведаю, што пытацца так ня трэба, але запытаў:

— З чаго гэта?

— Можа за тым, што сілком былі ажаніўі.

Я ішоў з ім і думаў, што мусіць гэта не ад гэтага, гэта тып непакойнага чалавека, цікавага ў сваім вечным кіпеньні

— А хто тая дзяўчына, што спатклася на дарозе, тая, з закрытым хусткаю тварам?

— Ня ведаю, хто яе ведае.

Я так і думаў.

Мне трэба назад—сказаў я раптам.

Ён трохі як-бы задзівіўся, прыпініўся, паглядзеў на мяне... Ен, здалося мне, як бы пашкадаваў, што гаварыў мне аб гэтым.

— Нічога.

— Што?

Я падумаў і сказаў:

— Мне трэба ісьці на работу; а горад—вунь, на прысадах. Што ты мне расказаў—гэта добра, мне цікава...

Ён узяўся за казырок і пашоў на прысады...

Я пастараўся дагнаць рабочых і вось мы едзем у таварным вагоне на новы участак. Мне цяпер ня хочацца ўжо варочацца ў горад. І ў мяне настрой—як адзнакі суму, і вясёлы бунт...

Хутчэй у глуш зямлі, у трывогу людзей, у востры сум, у вострую радасьць людзей...

Едзем лясамі і полем.
Якія туманы кладуцца вакол!
Восень. І як востра пахне зямля.

Уладзімер Дубоўка

# Урывак з мэлёдый „ПЛАЧ НАВАЛЬНІЦЫ“

Нізка мэлёдый «ПЛАЧ НАВАЛЬНІЦЫ» уваходзіць у падрыхтаваны да друку зборнік вершаў «Наля». Мэлёдыі зьвязаны з наступным фактам.

— У сьнежні месяцы мінулага году польская дэфэнзывы арыштавала 3-х сялян у Сакольцы (Заходняя Беларусь) і страшэнна катавала і біла іх. Асабліва сурова катавалі селяніна Уладзімера Шаха, якому зьвязалі рукі і ногі разам, а паміж локцяў прасунулі шаблю і пасьля гэтак моцна зьбілі, што ад уздрыгу цела зламалася шабля. Калі з Шаха пачала ліцца кроў, яму ўлілі у нос некалькі бутэлек вады і воцту.

VI

Трое іх.
Гаманілі з гаем.
Гаманілі з полем.
Гаманілі з жытам каласістым.

Трое іх.
Працавалі рана.
Працавалі позна.
Працавалі, сілу слалі лістам.

І аруды парожнія сіратою заўсёды,
нявыходнаю госьцяй у хлебе макіна.
І для панства зьбіралі—складалі слодыч
ўтраіх, як і ўся краіна.

Помста йдзе.
Галасіла поле.
Галасілі стрэхі.
Галасіў чарнобыль на памежку.

Помста йдзе.
Напілося болем,
напілося рэха,
напіліся крыўдай тыя сьцежкі.

І сьціскалася ў вусны нявыказнае гора,
і тапілася ў вочах часіна адплаты.
Каб за тое, за ўсё, што сягоньня і ўчора
вогнішчамі абшары палатаць.

Ці затым?
Павязалі рукі,
павязалі ногі,
павязалі цела,-дух зьвязаць ня можна

Ці затым?
Завязьлі на мукі,
завязьлі на рогат,
завязьлі на зьдзек паноў вяльможных.

Гаманілі хвалі—расхадзіўся Нёман,
гаманілі хмары—неба спахмурнела.
Гэта мы залічым, гэта мы ўспомнім,
калі словы стануць агнявейнай дзеяй.

А цяпер—
пакрышыце косьці,
пакрышыце гэтым,
пакрышыце новым невядомым.

Трэ' цярпець—
вецер помсту носіць,
вецер будзіць нетры,
вецер ад Усходу будзіць міліёны.

І за ўсё за мукі, і за воцат горкі,
і за ўкрыжаваньне гэтых і наступных,—
на ушэсьці скажа дух нязломны горда:
мы пазналі радасьць—вы пазнайце смутак.

Трое іх.
Гаманілі з гаем.
Гаманілі з полем.
Гаманілі з жытам каласістым.

Трое іх.
Працавалі рана.
Працавалі позна.
Працавалі, сілу слалі лістам.

Гэтых трох імёны сьвяткаваць прымусім
мы паноў вяльможных: злосьць-жа іх ад страху.

. . . . . . . . . .

За братоў маіх Заходняй Беларусі
стаўлю ў песьні помнік Уладзімеру Шаху.

**19/I—26, Масква.**

Крапіва

# Шчыры поп

(Бэйка)

Вось не забыцца мне ніколі,
Як раз угодніку Міколе
Служыў малебен поп адзін,
Як шчыра ён кадзіў.

Сьвяты угоднік Мікалай,
Як часта ў нас бывае,
Быў шэфам аднаго сяла,
Дык фэст дзявятага спраўлялі мая,

І скарыстаўшы добрую пагоду,
Ня мала там сабралася народу:
Адзін сапраўды йшоў маліцца,
Той замуж трэ' было, а гэтаму жаніцца.

Там як бы ні было, а на папова шчасьце
Ў царкве і яблыку няма дзе ўпасьці.
Той з радасьцю пачаў малебен правіць
Ды, каб Міколу добра ўславіць,

Калі пачаў хадзіць,
Калі пачаў кадзіць,
Ды так, што ў фанатычным тым уздыме
Угодніка схаваў у дыме,

Дзяка, і клірас, і аўтар
І сам гаворыць, ак з за хмар.
На ўсю царкву ня пах ужо—смурод,
І чхае й кашляе народ;

Таго ўжо тузае і рве,
А там паехалі аж разам дзьве.
Трывалі доўга людзі так, а потым—ходу,
І поп з угоднікам застаўся без народу.

. . . . . . .

Здараюцца-ж на сьвеце гэтакія людзі:
Ёсьць пара крытыкаў, вядомых нам,
Якія „кураць фіміам“,
Ад іх таксама нудзіць.

# ХРОНІКА

Утварылася новае беларускае літаратурна-мастацкае згуртаваньне, якое прыняло назву «Узвышша»

У склад гэтага згуртаваньня ўвашлі наступныя поэты і пісьменьнікі: А. Бабарэка, Зьмітрок Бядуля, П. Глебка, С. Дарожны, Уладзімер Дубоўка, Крапіва, М. Лужанін, Язэп Пушча, Кузьма Чорны і В. Шашалевіч.

Для кіраваньня працаю згуртаваньне вылучыла са свайго складу тымчасовы прэзыдыум у складзе Кузьмы Чорнага (старшыня), Крапівы (намесьнік старшыні) і Адама Бабарэкі (сакратар).

Згуртаваньне рыхтуе першы нумар кругабежнай (двухмесячнай) часопісі, які мае выйсьці з друку у лістападзе месяцы 1926 г.

Апрача таго, вышлі з друку творы Дарожнага у зборніку «Звон вясны» і выбраныя апавяданьні Зьмітрака Бядулі. У хуткім часе выйдуць з друку апавяданьні К. Чорнага у двух зборніках «Пачуцьці» і «Хвоі гавораць».

## Падрыхтавана да друку

**А. Бабарэка**—1) «**Творчасьць Ул. Дубоўкі**» крытычна-дасьледчая праца, 2) «Думкі у голас аб сучасным становішчы нашае літаратуры».

**З. Бядуля**—«Каўкаскія мэлёдыі».

**Ул. Дубоўка**—«Наля», зборнік вершаў.

**Крапіва**—«Сатыры».

**Язэп Пушча**—Зборнік поэзій.

**К. Чорны**—«Зямля», аповесьць.

» —«Васна» « «

» —«Вуліца», драма у 4 дзеях.